*З родным словам кроў не стыне...*
*Алесь Бабаед*



# КАРДОН

**№11 чэрвень 2000**

Інфармацыйна-публіцыстычны бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі "Таварыства беларускай мовы"

## МОВА МАЯ

*Ці плачу я, ці пяю,*
*Ці размаўляю з матуляю*
*Песню сваю, мову сваю*
*Я да грудзей прытульваю.*
***Пімен Панчанка***

Да мовы павярнуліся мы тварам,
І розумам, і сэрцам, і душой.
Ды тое, што ўжо спалена пажарам,
Нам цяжка аднавіць. Вадой святой
Акроплена тваё, матуля, слова,
З калыскі чулі мы яго не раз.
Яно – уратаванне і замова
У час бяды, ды і ў вясёлы час.
Няхай яно ўзлятае птушкай сіняй,
Разгорне крылы вольныя свае,
Нас у жыцці ніколі не пакіне,
Вясновым жаўранкам няхай пяе.

**Уладзімір Асокін**



## Кангрэс дэмакратычных сілаў

Другога ліпеня ў Мінску пройдзе IV Кангрэс дэмакратычных сілаў. На ім збярэцца каля тысячы дэлегатаў ад розных палітычных партый і грамадскіх арганізацый і рухаў , каб вырашыць важнае пытанне аб адносінах да асенніх парламенцкіх выбараў. Мяркуецца, што апазіцыя прыме удзел у выбарах толькі калі будуць выкананы некалькі ўмоваў, забяспечваючых правядзення свабодных і справядлівых выбараў:

- змены ў выбарчым заканадаўстве;
- рэальны доступ апазіцыі да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі;
- спыненне палітычных рэпрэсій, свабода мірных сходаў;
- наданне парламенту рэальных паўнамоцтваў.

Кангрэс плануе выказаць падтрымку маючаму адбыцца 29 ліпеня Усебеларускаму з'езду за незалежнасць, з ініцыятывай правядзення якога выступіла інтэлігенцыя рэспублікі.

На Кангрэсе будзе абмеркавана і ацэнена палітычная сітуацыя ў краіне і шляхі выхаду з палітычнага крызісу.

Кангрэс паслужыць далейшаму аб'яднанню дэмакратычных партый і рухаў, плануецца стварыць Каардынацыйныя рады дэмакратычных сілаў з прадстаўнікоў розных партый.

***Я. Мірон***

***Школьнае жыццё***

# *РАЗВІТАННЕ З ПАЧАТКОВЫМІ КЛАСАМІ*

Цікавая традыцыя склалася ў Вярхоўскай сярэдняй школе: кожны год праводзіць свята – развітанне з пачатковымі класамі. Свой уклад у развіццё гэтай традыцыі ўнеслі настаўніцы Людміла Віктараўна Асташонак і Майя Васільеўна Пятрашка.

Сёлета са сваёй першай настаўніцай развітваюцца выхаванцы Тамары Іванаўны Пляхневіч. Тамара Іванаўна - вопытны педагог, яна адпрацавала ў пачатковых класах 28 гадоў, мае першую катэгорыю. Добрасумленныя адносіны да сваёй працы, творчы падыход і вялікая працаздольнасць настаўніцы даюць свой плён і праяўляюцца ў ведах вучняў.

На свята прыйшлі бацькі вучняў, адміністрацыя і настаўнікі школы, вучні старэйшых класаў. Іх сустрэў спецыяльна аформлены класны пакой, на сценах якога малюнкі дзяцей, сярод якіх нават шарж на настаўніцу.

Тамара Іванаўна расказала пра чатырохгадовы шлях, які яна прайшла разам са сваімі выхаванцамі, пра іх поспехі і захапленні. Потым адбылася літаратурна-музычная кампазіцыя, дзеці чыталі вершы і спявалі песні. Усіх захапілі ўрокі-гульні, у якіх удзельнічалі і вучні і госці. Напрыклад, на "уроку" спеваў дзеці па аднаму слову, напісаннаму на картцы, павінны былі ўзгадаць і выканаць усю песню. Дзеці справіліся хутка і весела. Калі ж аналагічныя карткі атрымалі бацькі, дзеці не вытрымалі і пачалі дапамагаць ім выконваць песні.

Дырэктар школы Н. А. Марціноўская ўручыла Пахвальныя лісты лепшым вучням: Харкевіч Ганне, Шчуплянковай Нэлі, Капусцінай Свеце. Дарэчы, Света Капусціна будзе працягваць далейшую вучобу ў Лужаснянскай гімназіі для адораных дзяцей.

Завяршылася свята лялечным спектаклем. Вучаніцы Ганна Харкевіч, Юля Мароз, Люба Стрыж, Лена Пішчэйка, Нэля Шчуплянкова і Света Капусціна падрыхтавалі інсцэніроўку казкі У. Караткевіча "Жабкі і чарапаха".

Наперадзе ў "выпускнікоў" вялікае і цікавае школьнае жыццё. Спадзяюся, што і надалей іх будуць суправаджаць нераўнадушныя, шчырыя настаўнікі.

***Т. Г. Капціловіч***

# НЕ СТАРЭЮЦЬ ДУШОЙ ВЕТЭРАНЫ



Гэты матэрыял павінен быў з'явіцца ў майскім нумары да Дня Перамогі. Але абставіны склаліся так, што сустрэцца з ветэранам Вялікай Айчынай вайны, былым партызанскім разведчыкам Міхаілам Данілавічам Мандрыкам я змагла толькі 22 чэрвеня, у дзень трагічнай памяці аб пачатку вайны.

Вёска Шкалёўка знаходзіцца ў маляўнічым кутку, які яшчэ не закранула меліярацыя. Навокал бясконцыя лугі і пералескі, разнаквецце траў, птушыны гоман. Нават заяц няспешна перабег дарогу і заклапочаныя курапаткі з трывожным крыкам адводзілі мяне ад свайго патомства, праступочы праз ячменнае поле, як па гладкай дарозе. Міхаіла Данілавіча дома не застала, касіў сена. Жонка яго Вольга Арцёмаўна прапанавала пачакаць. Вярнуўшыся з пакосу, Міхаіл Данілавіч ахвотна згадзіўся адказаць на мае пытанні, першае з якіх было вядома ж пра пачатак вайны. Потым пытанні задаваць не спатрэбілася, - успаміны пацяклі шырокай плынню, абудзіўшы падзеі і перажыванні тых віхурных дзён.

Нарадзіўся Міхаіл Данілавіч у 1925 годзе на хутары Лысая гара, з якога потым перасялілі ў вёску Якубоўшчына. Скончыў сямігодку. Гады маладосці супалі з жудаснымі гадамі ваеннага ліхалецця. Агульная разгубленасць першых дзён была перапынена неабходнасцю эвакуіраваць калгасныя статкі. Падлеткаў разам з дарослымі накіравалі гнаць на ўсход жывёлу: коней, кароў, нават свінняў. Неразбяруха поўная. З бацькамі развіталіся са слязамі, ніхто не ведаў калі і дзе давядзецца сустрэцца. Вольга Арцёмаўна, тады яшчэ 15-гадовая дзяўчынка з вёскі Маскалёнкі, таксама трапіла на перагон жывёлы. Яны не былі знаёмыя, але у час перагону бачылі адзін аднаго, калі аднойчы іхнія статкі апынуліся на адным і тым жа канюшынным лузе.Спяшаліся, але фронт рухаўся тады вельмі хутка і выратаваць жывёлу не атрымалася. На тэрыторыі Смаленскай вобласці дарогу перагарадзіў нямецкі дэсант. Пешшу вярталіся назад у родныя вёскі. Пачалося аднаасобнае жыццё ў акупацыі. Карміліся толькі тым, што вырасце на агародзе і ў лесе.

Летам 1943 года па навакольных вёсках праехаў партызанскі камандзір і паклікаў хлопцаў біць ворага. Сабраліся разам усе, каму напачатку вайны яшчэ не выйшаў узрост ісці ў Армію: Раманкевіч Мікалай, Гаранін Алег, Лапатнёў Васіль, Раманкевіч Фёдар, Булыня Аляксей і іншыя. Разам з імі і Міхаіл Данілавіч 25 верасня падаўся ў партызаны. Ваяваў у складзе Другой Беларускай партызанскай брыгады, якая дзейнічала на тэрыторыі Аршанскага, Сенненскага і суседніх з імі раёнаў. Міхаіл Данілавіч быў разведчыкам. Сялянская назіральнасць, цярплівасць і вытрымка дапамагалі паспяхова выконваць заданні. Камандаваў атрадам разведчыкаў зямляк Мікалай Раманкевіч са Свіціна.

За зіму было праведзена шмат аперацый: грамілі нямецкія гарнізоны, узрывалі цягнікі, разбіралі чыгунку. Немцам гэта прыносіла шмат клопату і злосці, таму вясной сорак чацвёртага яны распачалі карныя аперацыі супраць партызан. Самае жудаснае з усяго партызанскага жыцця – блакада, у якую трапілі ў раёне возера Палік на Бягомльшчыне. 20 сутак былі ў акружэнні пад пастаянным абстрэлам, пакуль не падыйшлі часткі Чырвонай Арміі. Партызаны ўліліся ў склад войска.

Міхаіл Данілавіч атрымаў спецыяльнасць сувязіста, быў тэлефаністам і радыстам. З баямі дайшоў да Усходняй Прусіі, быў узнагароджаны за вызваленне Кёнігсберга. Там жа быў паранены і кантужаны, варожы снарад узарваўся зусім побач. Івану Данілавічу пашанцавала больш, чым многім яго таварышам. Пасля трох месяцаў лячэння ў шпіталі ён вярнуўся ў часць і Перамогу сустрэў на нямецкай зямлі.



Штаб 2 отряда
2БПБ им. Пономаренко
1 марта 1944г.
№ 14.

Удостоверение.

Выдано т. Мандрыку Михаилу Даниловичу в том, что он является партизаном-разведчиком 2 отряда 2БПБ им. Пономаренко, что и удостоверяется. Действительно до 1 апреля 1944г.

Командир 2 отряда [signature] /Матросов/

Начальник штаба [signature] /Голованов/

Продлено до 1 мая 1944 года [illegible] [signature]

**Партызанскае пасведчанне М.Д. Мандрыка напісанае на кавалачку шпалераў ў 1944 годзе.**



**Не ўсе ўзнагароды захаваліся…**

*Працяг на 3 старонцы*

# НЕ СТАРЭЮЦЬ ДУШОЙ ВЕТЭРАНЫ

*Праця г, пачатак на 2 старонцы*

З Арміі ён вярнуўся толькі ў сорак восьмым годзе. Працаваў у калгасе. Зараз інвалід другой групы. Атрымлівае пенсію і на жыццё не скардзіцца не таму, што яно такое добрае, а таму што да ўсяго прывык, бачыў і горшае. Гады бяруць сваё. Ды і праца сялянская не з лёгкіх. I раптам, нібы маладосць вярнулася. Узяў у рукі гармонік і загучалі песні ваенных і пасляваенных гадоў. I вершы , дзеля якіх я і шукала гэтага чалавека, прачытаў. Чытаў уперамешку і свае і чужыя, не вельмі акцэнтуючы ўласнае аўтарства. У вёсцы яго вершы ўспрымаюць не вельмі, лічаць непатрэбным дзівацтвам, таму і сам ён як бы саромеецца. З яго запаветнага сшытка я выбрала некалькі вершаў, крыху падправіла і прапаную адзін з іх увазе чытача.

Каб сфатаргафавацца Міхаіл Данілавіч апрануў свой "парадны" піджак з узнагародамі. Не разбалаваныя увагай нашы ветэраны. Раней часта запрашалі выступаць. Міхаіл Данілавіч пацікавіўся, якія мерапрыемствы намячаюцца ў Бешанковічах з нагоды Дня вызвалення Беларусі ад нямецка- фашысцкіх захопнікаў, але ці прыедзе на свята – невядома. Цяжка куды-небудзь выбрацца старому чалавеку. Пажадаем жа Міхаілу Данілавічу Мандрыку і усім астатнім ветэранам здароўя і доўгіх год жыцця.



Міхаіл Данілавіч і Вольга Арцёмаўна каля сваёй хаты.



Мелодыі ваенных гадоў

## *НЕ ЗАБЫЦЬ*

***М. Д. Мандрык***

Зноў сэрца поўніць мне трывога,
Зноў ночы доўгія не сплю.
У снах вядзе мяне дарога
Цераз бяду, цераз вайну.

I зноў паўзу я па-пластунску,
Смалю з вінтоўкі, з ПэПэШа.
Ад успамінаў паратунку
Не ведае мая душа.

Калі мы за цябе, Айчына,
Пад кулі лезлі напралом,
Не думалі мы, не лічылі,
Што да таклга дажывём.

Мы нервам волю не давалі,
Вязалі моцным іх вузлом.
Калі сяброў сваіх хавалі –
Як сэрца вытрымаць магло?

Я'зараз зноў успамінаю
Тых воінаў, сваіх сяброў,
Яны прыходзяць і пытаюць:
"За што ж мы пралівалі кроў?

Каб вы, уцалелыя, жывыя
Усё да развалу давялі?"
А мы ж нямоглыя, старыя
Усё зрабілі, што маглі.

Мы не скуголілі, не нылі,
Не йшлі з працягнутай рукой.
Мы будавалі і тварылі
I ў снах не сніўся нам спакой.

Пара забыць вайны віхуры,
Спакойна навучыцца жыць.
Ды, пэўна, той ваеннай буры
Мне ўжо да скону не забыць.

Тэкст і здымкі ***В. Гракун***

## НАША СУМЛЕННЕ І ГОРДАСЦЬ

**19 чэрвеня 1924 года ў вёсцы Бычкі, што недалёка ад Полацка, нарадзіўся народны пісьменнік – сумленне і гордасць Беларусі – Васіль Быкаў. Сёлета яму споўнілася 76 гадоў. Не юбілей, але адзін дзень жыцця такога чалавека варты гадоў ці нават цэлага веку каго-небудзь іншага.**

**Васіль Быкаў – аўтар многіх кніг, вядомы на толькі на прасторах былога СССР, але і ва ўсім свеце. Ён адным з першых сказаў праўду пра вайну, пра тую вайну, якую ён прайшоў у дзеючым войску, зведаўшы ўсе яе жахі. "Жорсткая, бязлітасная памяць абавязвае нас, былых салдат, быць праўдзівымі і сумленнымі да канца свайго жыцця" – гэта жыццёвае крэда пісьменніка, ад якога ён ні на крок не адступіўся і сёння.**

# ПЕСНІ МІХАІЛА ПЕТУХОВА



Багатая наша зямля на таленавітых людзей. Яны жывуць побач, але мы, занятыя сваімі справамі і клопатамі, не заўсёды нават ведаем пра іх творчыя дасягненні. Сёння я хачу пазнаёміць чытачоў з самадзейным кампазітарам Віктарам Пятровічам Петуховым, які жыве ў Бешанковічах.

Віктар Пятровіч скончыў Ленінградскі інстытут культуры, працуе кіраўніком Ульскага народнага хору. Валодае многімі музычнымі інструментамі, самы любімы сярод якіх – акардэон. У рэпертуары хору ёсць і песні, музыку да якіх напісаў сам кіраўнік. Сярод аўтараў тэкстаў знакамітыя беларускія паэты: Ніл Гілевіч, Авер'ян Дзеружынскі, Міхаіл Ясень, а таксама не менш знакамітыя нашы землякі: Алесь Бабаед, Барыс Беляжэнка, Генадзь Казак і іншыя. У асноўным тэксты песень гучаць на роднай беларускай мове, ёсць песні і на ўласныя вершы. Напэўна, самая адметная і прывабная рыса песень Віктара Петухова – іх высокая грамадзянская накіраванасць, любоў да роднай Беларусі і боль за яе.

Нядаўна Віктар Пятровіч выйшаў на пенсію. Вольнага часу стала больш, ёсць магчымасць займацца любімай справай. Пажадаем яму новых творчых поспехаў.

З амаль сотні песень, напісаных В. Петуховым, мы выбралі для друку дзве, і спадзяемся, што яны знойдуць сваіх прыхільнікаў і выканаўцаў.

## МОВА МАЯ

*Сл. Сяргея Чыгрына*
*муз. Віктара Петухова*

*З душой*

Мова мая з-пад сахі, мова мая з-пад страхі,
ластаўкай лёгкай лу-на-е – мне не патрэбна чужа-я.
Прыпеў: Кожна-е сэрца і ха-та роднаю мовай ба-га-ты.
Вечная і свя-та-я... Мне не патрэбна чужая (канец)

Мова мая з-пад сахі,
Мова мая з-пад страхі,
Ластаўкай лёгкай лунае –
Мне не патрэбна чужая.
*Прыпеў:*
*Кожнае сэрца і хата*
*Роднаю мовай багаты.*
*Вечная і святая...*
*Мне не патрэбна чужая.*
Мова мая з-пад касы,
Мова мая са слязы,
Яркім бурштынам ззяе –
Мне не патрэбна чужая.
*Прыпеў.*
Выткана мова на кроснах
І разаслана па вёсках,
У горы і ў шчасці зблізжае –
Мне не патрэбна чужая.
*Прыпеў.*

## ХТО НАС АКРЫЛІЦЬ У ЗАЎТРА ?

**Верш Ніла Гілевіча "Песня-прысяга"**
**Музыка Віктара Петухова**

*Паходна, рашуча*

Хто нас акрыліць у заўтра – шлях нам азорыць наперад ?
Толькі народная праўда! Толькі народная вера! Прыпеў: Дык не ад-
ступімся ж, людзі! Справе не здрадзім святой, і не пакінь-ма ў ас-
тудзе сэрца Радзімы сваёй! Сэрца Радзімы сваёй! (канец)

Хто нас акрыліць у заўтра –
Шлях нам азорыць наперад ?
Толькі народная праўда !
Толькі народная вера !
*Прыпеў:*
*Дык не адступімся ж, людзі !*
*Справе не здрадзім святой,*
*І не пакіньма ў астудзе*
*Сэрца Радзімы сваёй!*

Што ўберажэ нас ад зводу –
Каб не зламала нядоля ?
Толькі народная згода згода !
Толькі народная воля !

# ЖЫВАТВОРНЫ СІМВАЛ БЕЛАРУСІ





**Крыж святой Еўфрасінні, створаны Лазарам Богшам у 1161 годзе.**

Ужо ў старажытнасці нашы продкі глыбока шанавалі крыж як адзін з найгалоўнейшых сімвалаў хрысціянскай веры. На ім прысягалі, яго бралі ў паходы. Еўфрасіння Полацкая ў 1161 годзе замовіла крыж славутаму полацкаму майстру Лазару Богшу. Крыж павінен быў стаць захавальніцай для хрысціянскіх рэліквій, атрыманых з Іерусаліма і Царгорада. Магчыма, што сама Еўфрасіння была і аўтаркай эскізу.

Крыж мае шэсць канцоў. Такая форма крыжа была больш распаўсюджана на беларускіх землях, напрыклад на знакамітых "Барысавых камянях" выбіты менавіта шасціканцовы крыж. Вышыня крыжа – 51 см. Аснова крыжа драўляная, з кіпарысавага дрэва, з якога ў той час выраблялісі важныя культавыя рэчы.Дрэва закрываюць пласткі з золата з каштоўнымі камянямі, арнаментам і эмалевымі абразкамі. На верхніх канцах крыжа выявы Хрыста, Багародзіцы і святых. У сярэдзіне крыжа ў пяці квадратных гнёздах змешчаны хрысціянскія рэліквіі: кавалачкі Крыжа Гасподняга з кроплямі Ісусавай крыві, драбок каменя ад дамавіны Найсвяцейшай Багародзіцы, часціцы мошчаў святых Стэфана, Панцяляймона і Дзімітрыя. Над кожным з гнёздаў зроблены надпіс. З бакоў крыж абкладены срэбнымі з пазалотай пласткамі, а з пярэдняга боку абведзены шнурком перлаў (жэмчугу).

На пазалоце крыжа выбіты надпіс, які ў перакладзе на сучасную мову гучыць так: "У лета 1161 кладзе Еўфрасіння сьвяты крыж у сваім манастыры ў царкве Сьвятога Спаса...І хай не выносяць яго з манастыра ніколі і не прадаюць, і не аддаюць. Калі ж не паслухаецца хто і вынесе, хай не дапаможа яму сьвяты крыж ні гэтым жыцці, ні ў будучым, хай пракляты ён будзе...і хай напаткае яго доля Юды, які прадаў Хрыста. Ефрасіння ж, раба Хрыстова, што справіла гэты крыж, здабудзе вечнае жыццё з усімі святымі..."

Заклён дзейнічаў на сучаснікаў Еўфрасінні. Пасля смерці асветніцы крыж Лазара Богшы вывезлі з Полацка смаленскія князі. У 1514 годзе маскоўскі князь Васіль III захапіў Смаленск і забраў крыж у Маскву.

У час аблогі Полацка ў 1563 годзе Іван Жахлівы загадаў вярнуць полацкую святыню на яе спрадвечнае месца. Магчыма ён хацеў гэтым замаліць крывавыя злачынствы на беларускай зямлі. У захопленым Полацку было знішчана ўсё інавернае насельніцтва. 11 тысяч сялян цар раздаў сваім падначаленым, 50 тысяч мяшчан і шляхты былі ўзяты ў палон у Масковію, а хто адмаўляўся служыць цару – разам з жонкамі і дзецьмі ў кайданах сядзелі па турмах. Шмат палонных было забіта.

У 1579 годзе Полацк захапілі войскі літоўскага караля Стэфана Баторыя. Царква Спаса, у якой захоўваўся Крыж, перайшла да ўніятаў. Уніяты або грэка-каталікі складалі ў канцы 18 стагоддзя не менш за тры чвэрткі насельніцтва. Таму менавіта уніяцтва можна лічыць нацыянальнай рэлігіяй беларусаў.

У 1812 годзе ў Полацк прыйшлі войскі Напалеона. Манахі замуравалі Крыж у сцяне Сафійскага сабора. Пасля французкага нашэсця Крыж вывозіўся ў Маскву і Санкт-Пецярбург, адкуль вярнуўся ў 1841 годзе і быў урачыста пакладзены ў келлі, дзе найпадобнейшая Еўфрасіння пражыла свае апошнія гады.

У савецкі час рэліквію рэквізавалі бальшавікі. З пад апекі духавенства крыж трапіў пад чорнае крыло ОГПУ. У той трывожны час навуковая экспедыцыя пад кіраўніцтвам дырэктара Беларускага дзяржаўнага музея Вацлава Ластоўскага распачала пошукі неацэнннага крыжа і знайшла яго ў мясцовым фінаддзеле. Але і ў музеі над рэліквіяй навісла пагроза. Па камандзе з Масквы рыхтавалася расправа над нацыянальнай інтэлігенцыяй і культурай. Наперадзе незлічоныя арышты, лагеры і расстрэлы. "Чыстка" ішла і сярод музейных экспанатаў. Найбольш каштоўныя рэчы вывозіліся ў Маскву. Адбываўся рабунак культурнае спадчыны народа з мэтай разбурэння яго нацыянальнай свядомасці. Сталіцу Беларусі планавалі перанесці ў Магілёў. Горад рыхтавалі да новай ролі: знішчалі храмы, будавалі Дом урада, пераводзілі рэспубліканскія ўстановы. У 1929 годзе ў Магілёў трапіў і Крыж Еўфрасінні Полацкай. Ён быў змешчаны ў пакоі-сейфе абкама партыі, адкуль знік у 1941 годзе. Магілёў за паўтысячы кілометраў ад дзяржаўнай мяжы, час дазваляў правесці эвакуацыю скарбаў. Ёсць сведчанні, што каштоўнасці з Магілёва былі вывезены на ўсход, але дзе яны зараз – невядома. Шматлікія пошукі не даюць пакуль што вынікаў.

*Працяг на наступнай старонцы*



Полацкі Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр сення



Мікола Кузьміч і Уладзімір Арлоў

Расія не прызнала пагадненне кіраўнікоў краін СНД 1992 года аб вяртанні гістарычных каштоўнасцяў дзяржавам іх паходжання. Магчыма, Крыж Еўфрасінні знаходзіцца ў музейных сховішчах аднаго з гарадоў Расіі, магчыма, трапіў у прыватную калекцыю на Захад.

У 1992 годзе Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" пачало працу па аднаўленню святыні. Аўтарам адноўленага крыжа стаў беларускі мастак, майстар-ювелір Мікола Кузьміч. Ен захоплены беларускай гісторыяй, асабліва мінулым Полацкай зямлі – калыскі нашай дзяржаўнасці і нацыянальнай культуры. Пяць гадоў ён руплівa спасцігаў таямніцы перагародкавай эмалі і іншых тэхнік часоў Лазара Богшы, вывучаў Біблію, ездзіў на паклон да мошчаў Еўфрасінні ў Полацк і да Гроба Гасподня ў Іерусалім, кансультаваўся з вучонымі і царкоўнікамі. Праваслаўная царква блаславіла і апекавала працу над Крыжом. Выкарыстоўваліся тыя ж матэрыялы і рэліквіі, што і пры стварэнні Крыжа Еўфрасінні: і кіпарысавае дрэва з Іерусаліму, і кроплі Ісусавай крыві, і часцінкі жыватворнага Крыжа Гасподняга, і мошчы святых. У выніку была створана не копія, не рэканструкцыя, а новая сакральная каштоўнасць, святыня, якая стала мосцікам паміж мінулым і сучаснасцю і абавязвае нас задумацца пра драматычны шлях нашае краіны і яе гістарычную перспектыву. Новы Крыж асвечаны і пакладзены ў Полацкім Крыжаўздзвіжанскім саборы ў 1997 годзе. Святыні пакідаюць нас, калі мы становімся недастойнымі іх, і вяртаюцца, калі душы імкнуцца да ачышчэння, святла і волі

АНЕКДОТЫ

* * *

- Хто былі па нацыянальнасці Адам і Ева?
- Канешне, беларусамі! Што ж яшчэ мог бегаць босымі і раздзетымі, не мець жылля, есці адзін яблык на дваіх і пры гэтым крычаць, што яны ў раю!

* * *

Пры раскопках руінаў аднаго з асабнякоў у Драздах археолагі знайшлі невядомую частку Бібліі: "Канец свету можа наступіць у адной, асобна ўзятай краіне."

## ВАСІЛЮ ЗУЁНКУ - 65

3 чэрвеня вядомаму паэту, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі Васілю Зуёнку споўнілася 65 гадоў.Яго эпічная паэма "Маўчанне травы" і іншыя творы нарадзіліся з роздуму пра свет і людзей, яго мова – з глыбінь народнай творчасці. Прапануем некалькі прыкладаў сапраўднай паэзіі ў вершах і адрыўках:

* * *

Ніхто не пачуў:  
Яблык упаў дасвеццем –  
Ля Халопеніч, на Беларусі.  
Ніхто не пачуў –  
Ні людзі, ні травы, ні вецер…  
Ніхто,  
А шар зямны здрыгануўся.

* * *

Так было і так будзе: плямёны  
Адыходзяць, каб не ўваскрэснуць…  
Можа й ты, мой народзе, кляймёны  
Знакам тым, што этрускаў закрэсліў?

Бо інакш бы з чаго так бязмэтна  
Ты свой лёс кідаў на раструску?

Каб я стаў безнародным паэтам?  
І каб вершы пісаў па-эт-руску?..

* * *

Збіралі гукі, насілі,  
Хавалі ў азёрнай сіні…  
Як стала на цэлую песню –  
Узляцелі да паднябесся.  
Зайгралі, зайгралі гуслі…  
Шчаслівай дарогі, гусі.

* * *

Крычыць газетны абрус,  
А я за ўсімі бедамі  
Чакаю аб'явы новай:  
"Шукаецца беларус,  
Які ведае Беларускую мову".

* * *

Есць Радзіма і ёсць бяссмерце.  
Мова ёсць і не згіне зямля.  
На скрыжалях вякоў не сцерці  
Слоў, што вёска ўзрасціла мая.

***Васіль Зуёнак***

" Кардон". Бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі "Таварыства Беларускай мовы ". № 11, чэрвень 2000.
Рэдкалегія: Валянціна Гракун, Алесь Бабаед, Георгій Станкевіч. Тыраж 299. Выдадена пры падтрымцы Віцебскага філіяла " Фонда імя Льва Сапегі". Распаўсюджваецца бясплатна. **Тэлефон –2-26-93**

# Гары мая душа

сл. Аўр'яна Дзержынскага
муз. Віктара Петухова

Рухава

1\. Гары, гары мая душа, гары, гары маё памкнене,
о, дай мне розум паспяшаць засеяць свет дабром-насен – нем. Га-
ры, гары мая душа, гары, гары маё памкнен не, о,
дай мне розум паспяшаць засеяць свет дабром-насеннем.

1\. Гары, гары мая душа,
Гары, гары маё памкненне,
О, дай мне розум паспяшаць
Засеяць свет дабром-насеннем. } 2 разы

2\. Няхай рунеецца ўзыход,
Расце, не прозіць недародам,
Каб мой спакутваны народ
Адчуў і веліч і свабоду. } 2 разы

3\. Гары, гары святло душы,
Гары, гары маё жаданне,
Нянавісць між людзьмі тушы
Ўззяй нязгаснай зоркай рання! } 2 разы

# Віцебшчына родная мая

сл. Паўла Воранава
муз. Віктара Петухова

Moderato

Свеціць сонца яснае лас-кава,
квеценню красуецца вясна. Між ільноў зялёных куча-
ра-вых плешчыцца блакітная Дзвіна. Між іль-
ноў зялёных куча- ра-вых плешчыцца блакітная Дзвіна.

1. Свеціць сонца яснае ласкава,
Квеценню красуецца вясна.
Між ільноў зялёных кучаравых
Плешчыцца блакітная Дзвіна. } 2 разы

2. Самы дарагі і сэрцу блізкі
У густых бярозавых гаях.
Гэта ты, мой светлы край прыдзвінскі,
Віцебшчына родная мая. } 2 разы

3. Шмат азёр, лясоў, лугоў духмяных...
Радасна тут сэрцу удвая.
Я ў цябе навекі закаханы
Віцебшчына родная мая. } 2 разы